ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 72(5254)
Чацвер,
28 чэрвеня
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 51 руб.*

Сёння — суперфінал Рэспубліканскага конкурсу педагогаў




## Чыстага неба табе, журавель...

***28 красавіка 2001 года завяршыўся фінальны этап Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства настаўнікаў "Крыштальны журавель-2001". Здавалася б, да суперфіналу так далёка...***

Азіраючыся назад і ўспамінаючы хваляванні, якія перажывалі не толькі ўдзельнікі фіналу, але і члены журы, члены арганізацыйнага камітэта, рабочай групы конкурсу, можна з упэўненасцю сказаць: "Конкурс адбыўся. Ён патрэбен нам". Няхай былі слёзы радасці і расчаравання, крыўда і засмучэнні, палёты ў сне і наяву, адбылося галоўнае — яднанне душы, усведамленне сябе паўнапраўным членам адзінай вялікай каманды настаўнікаў.

Хто стане пераможцай? Гэта пытанне хвалюе ўсіх. Сёння складана даць на яго адказ, таму што кожны з шасці суперфіналістаў дастойны высокага звання "Настаўнік года Рэспублікі Беларусь". Мяркуйце самі, 150,41 бала (з 170 магчымых) — першы вынік і 141,04 бала — шосты.

Пры ацэнцы ўсіх конкурсных мерапрыемстваў члены журы кіраваліся рэкамендацыямі, распрацаванымі супрацоўнікамі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Крытэрыі ацэнкі практычна ўсіх конкурсаў адзіныя: мэтастаўленне, змест, арганізацыя, мэтазгоднасць сродкаў і метадаў, якія выкарыстоўвае настаўнік, выніковасць — паказчыкі ж кожнага крытэрыя, вядома, розныя.

Штодзень члены журы запаўнялі спецыяльна распрацаваныя ацэначныя лісты і здавалі ў сакратарыят. Нават можна было напярэдадні апошняга дня фіналу адказаць, хто з удзельнікаў конкурсу ўвойдзе ў шасцёрку лепшых, але ж 28 красавіка яшчэ давалі ўрокі чатыры настаўнікі, якія маглі б змяніць сітуацыю і парушыць мяркуемы парадак.

З выніковай ведамасцю конкурсу старшыня журы доктар педагагічных навук, прафесар БДПУ імя М.Танка Ірына Аляксандраўна Новік і старшыня арганізацыйнага камітэта рэктар Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар Алег Ігнатавіч Таўгень азнаёміліся за паўгадзіны да прэс-канферэнцыі па падвядзенні вынікаў конкурсу.

Журы вынесла свой "прыгавор", і ўсё ж галоўнымі цаніцелямі ўрока былі самі настаўнікі-канкурсанты і дзеці. Ці прыходзілася вам заглядваць у вочы вучняў, якія прысутнічалі на ўроку-падарожжы, уроку-даследаванні, уроку-адкрыцці? На пытанне "як?", якое мы задавалі сорак чатыры разы (!) у час конкурсу, часцей за ўсё чулі:"Здорава! Кожны б дзень такія ўрокі". Настаўнікі школ, дзе праходзілі конкурсныя ўрокі, просяць паглядзець відэафільмы не толькі таму, што жадаюць упэўніцца, што іх дзеці не падвялі, але і хочуць убачыць майстэрства сваіх калег. Ужо той факт, што яны сталі ўдзельнікамі Рэспубліканскага этапа конкурсу, гаворыць за сябе.

На жаль, не заўсёды ацэнка ўрока самім настаўнікам і членамі журы супадала. Але адно несумненна, што конкурсныя іспыты ад мадэліравання ўрока да рэфлексіі далі некаторы штуршок да пошукаў у рашэнні адвечных задач: як навучаць і чаму навучаць.

Члены журы зрабілі дзіўнае адкрыццё: урокі-імправізацыі, падрыхтаваныя напярэдадні, паўней раскрылі патэнцыял кожнага настаўніка, чым урокі-загатоўкі, яскравыя, маляўнічыя, насычаныя рознымі формамі арганізацыі дзейнасці вучняў. За ўрок (мадэліраванне, правядзенне, самааналіз) настаўнік мог атрымаць 55 балаў. Першы вынік роўны 52,92 бала, апошні — 26,67.

Кожны з дваццаці двух удзельнікаў фіналу хацеў, канечне ж, трапіць у суперфінал. Але ў размовах паміж сабой, аб'ектыўна ацэньваючы свае вынікі і вынікі калег, аддавалі вылучэнне лідэраў.

Ва ўмовах напружанай барацьбы, дзелавога супрацоўніцтва, узаемавыручкі і ўзаемадапамогі вызначылася шасцёрка пераможцаў: пяць настаўнікаў вышэйшай катэгорыі, адзін мае першую.

У суперфінале кожнаму з прэтэндэнтаў на галоўны прыз трэба будзе прайсці праз сур'ёзныя выпрабаванні: распрацаваць і абараніць адукацыйны праект "У новы век з новымі...", правесці міні-ўрок на сцэне, калі "вучнямі" будуць шаснаццаць настаўнікаў-фіналістаў, прыняць удзел у брэйн-рынгу і конкурсе-сюрпрызе. І ўсё гэта на працягу аднаго дня! Максімальная колькасць балаў, якую можа набраць суперфіналіст роўная шасцідзесяці. Да выніку фіналу дадаецца вынік суперфіналу — і пераможца вызначаны.

Суперфіналістам забяспечваюцца роўныя ўмовы: усе конкурсы будуць праходзіць на сцэне, у прысутнасці журы і гледачоў. Настаўнік умее працаваць на публіку, але адна справа — клас, а іншая — поўная зала добразычлівых калег, якія спачуваюць і падтрымліваюць.

Сёння цяжка камусьці з шасцёркі лепшых аддаць перавагу. Усе — прафесіяналы высокага класа.

Галіна Пятроўна Дрокіна — настаўнік геаграфіі з беларускай гімназіі Маладзечна. Цяжка было незаўважыць Галіну Пятроўну ўжо на самапрадстаўленні, калі яна прапанавала пець усёй зале. І гэта не эфектны трук, а проста стан душы педагога, яго майстэрства, якое раскрываецца ў здольнасці знайсці партнёраў, якія суперажываюць, спачуваюць і саўдзельнічаюць. Але самае адметнае — урок па геаграфіі Беларусі, які дала настаўніца ў сярэдняй школе № 53. Настаўнікі і члены журы не заўважылі, як праляцелі 45 хвілін. Уразіла глыбокае веданне настаўнікам прадмета, псіхалагічных асаблівасцей вучняў падлеткавага ўзросту і меладычная багатая беларуская мова, якой дасканала валодае Галіна Пятроўна.

Алег Леанідавіч Леановіч — настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 2 Слоніма. Знешне стрыманы, робіць уражанне маналіту, але абсалютна пераўвасабляецца на ўроку: добразычлівая ўсмешка, жарты, жаданне прыйсці на дапамогу вучню ў любую хвіліну, стварыць яму сітуацыю поспеху ў жаданні самарэалізавацца.

Упершыню ў конкурсе прымаў удзел настаўнік-дэфектолаг з Кадзінскай школы Магілёўскай вобласці — Вольга Іванаўна Лугоўская. Калі прысутнічаеш на яе ўроках, забываешся, што ў некаторых дзяцей ёсць адхіленні ў псіхафізічным развіцці. У дзяўчынак і хлопчыкаў загараюцца вочы, высока ўгору цягнуцца ручкі — такое вялікае жаданне адказаць настаўніку, якога вучні бачаць першы раз у жыцці.

Алена Аляксандраўна Падрубная — настаўнік рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 10 Гомеля. Настаўнікі-славеснікі пагодзяцца, што выбраць для конкурснага ўрока раман М.Булгакава "Майстар і Маргарыта" можа толькі апантаны педагог, які разумее, што ўрок літаратуры адбудзецца тады, калі ідзеш ад слова, твора да асобы пісьменніка. А Алена Аляксандраўна ўмее гэта рабіць: невыпадкова яна ўвайшла ў склад аўтарскага калектыву па стварэнні падручніка літаратуры для 10 класа рэфармуемай школы.

Вадзім Паўлавіч Шпетны — настаўнік геаграфіі школы з дзівоснай назвай — Ланская, што на Брэстчыне. Імпэт маладосці адчуваецца ва ўсім: гульні "знаёмства", уроку, размовах з сябрамі-сапернікамі. Дзіцячыя сэрцы адкрываюцца насустрач таму, што адчуваюць: гэта шчыры настаўнік. І разам з тым — глыбіня ведаў, эрудыцыя, жаданне быць наперадзе.

Дзмітрый Мікалаевіч Чарапко — настаўнік матэматыкі Палітэхнічнай гімназіі № 6 Мінска. Ведаючы сабе цану, здольны хутка ацаніць сітуацыю і выбраць менавіта тыя формы арганізацыі навучальнага працэсу, якія дапамогуць дасягнуць жадаемага выніку. Урокі, якія правёў Дзмітрый Мікалаевіч у сярэдніх школах № 50 і № 79, былі сапраўды ўрокамі майстра.

Усе такія розныя, але аднолькава дарагія тым, хто з імі працуе, супрацоўнічае і кантактуе.

Добрыя і цёплыя словы можна сказаць пра ўсіх удзельнікаў фіналу. Няхай хтосьці з іх заняў сёмае месца, а хтосьці дваццаць другое — усе годна прадстаўлялі свае рэгіёны на Рэспубліканскім конкурсе прафесійнага майстэрства педагогаў "Крыштальны журавель-2001".

Куды цяпер паляціць наш журавель? Хто здолее яго злавіць? Пра гэта мы даведаемся вельмі хутка — 28 чэрвеня, сёння. Чыстага табе неба, крыштальны журавель, добрых пяшчотных рук, трапяткога і чулага сэрца.

**Зінаіда БУЛАХАВА,**
**адказны сакратар журы Рэспубліканскага конкурсу, намеснік начальніка ўпраўлення навучальна-метадычнай работы Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.**

## Моц і будучыня дзяржавы

29 чэрвеня ў Палацы рэспублікі адбудзецца велічнае і сімвалічнае свята краіны для выпускнікоў ВНУ — рэспубліканскі баль, які збярэ з розных куточкаў Беларусі найлепшых прадстаўнікоў інстытутаў, універсітэтаў, акадэмій. 412 былых студэнтаў стануць удзельнікамі грандыёзнага і прыгожага форуму моладзі. Будуць узнагароджаны выпускнікі, а таксама самі ВНУ. Напрыклад, вызначаны пераможцы ў намінацыях: "Самая строгая ВНУ" (установа, дзе ў гэтым годзе быў найбольшы адсеў студэнтаў), "Самая беражлівая ВНУ", самая культурная, самая вучоная і г.д.

На сёння мы маем выразны сацыяльны партрэт выпускніка-2001. Гэта чалавек, які добра авалодаў фундаментальнымі ведамі, ясна бачыць сацыяльна-эканамічныя мэты развіцця рэспублікі, мае шырокую навуковую і практычную падрыхтоўку. Гэта таксама ўмелы арганізатар, здольны прымяняць прынцыпы навуковага кіравання сацыяльна-эканамічнымі і тэхналагічнымі працэсамі. Ён умее працаваць з людзьмі, цэніць іх працу, прыслухоўваецца да думкі калег, аб'ектыўна і крытычна ацэньвае вынікі дзеяздольнасці падначаленых. Сучасны спецыяліст — асоба, якая мае высокую культуру, развіты інтэлект, гэта сапраўдны інтэлігент. Ён — будучыня нашай радзімы.

Важнай рысай сучаснага спецыяліста з вышэйшай адукацыяй з'яўляецца тое, што ён можа самастойна папаўняць атрыманыя ў ВНУ веды і мае ў гэтым пастаянную патрэбу.

Рэспубліканскі баль выпускнікоў — люстэрка нашага грамадства, у ім сабраны ўласцівасці і характарыстыкі нашага часу і жыцця.

Сёння дыпломы аб вышэйшай адукацыі атрымаюць каля 38000 выпускнікоў. З іх 32000 заканчваюць дзяржаўныя ВНУ. Ступень магістра атрымалі 412 чалавек. Падрыхтоўка спецыялістаў у гэтым навучальным годзе ажыццяўлялася па 233 спецыяльнасцях і 1070 спецыялізацыях.

Дзяржава атрымала амаль па ўсіх сферах жыццядзейнасці спецыялістаў. Для сістэмы адукацыі падрыхтавана 13900 чалавек; прамысловасці — больш за 8000 чалавек; сельскай гаспадаркі — 2850 чалавек; аховы здароўя, фізічнага выхавання і спорту 1400 чалавек; транспарту і сувязі — каля 900 чалавек, мастацтва і кінематаграфіі — каля 260 чалавек. Па эканамічных спецыяльнасцях у гэтым годзе атрымалі вышэйшую адукацыю каля 4000 чалавек.

У рэспубліканскім балі выпускнікоў прыме ўдзел Прэзідэнт нашай краіны А.Р.Лукашэнка.

**Віктар ІЎЧАНКАЎ.**

## Штрыхі да партрэтаў суперфіналістаў



## Гомельская пушкіністка

***Сёння, калі чалавек, асабліва юнак, знаходзіцца ў эпіцэнтры вялікага валу інфармацыі, як важна, каб побач аказаўся той, хто возьме за руку і павядзе ў свет, дзе вучаць разумець дабро і зло, дзе "ёсць месца подзвігу" і летуценням, дзе можна стаць героем рыцарскай эпохі або зляцаць на іншую планету. Як важна, каб у жыцці школьніка быў настаўнік-майстар, разумны і ўважлівы педагог, прафесіянал, які мае глыбокія навуковыя веды, калі ён — творчая асоба.***

Усе пералічаныя эпітэты ў поўнай меры вызначаюць якасці незвычайнага настаўніка рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 10 Цэнтральнага раёна Гомеля Алены Аляксандраўны Падрубнай. Яна ў мінулым — студэнтка філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Сёння — суіскальнік пры аспірантуры на кафедры рускай літаратуры, займаецца сур'ёзнай навуковай работай, даследуе праблемы інтэграцыі па курсу рускай літаратуры. Яе навуковыя работы "Тэма абавязку ў аповесці А.С.Пушкіна "Капітанская дачка", "З гісторыі санета...", "Вольнасць" А.С.Пушкіна", "Навальніца па-над Волгай" былі апублікаваны на старонках рэспубліканскага часопіса "Руская мова і літаратура". Алена Аляксандраўна ўваходзіць у састаў аўтарскага калектыву нацыянальнага падручніка рускай літаратуры для 10 класа. Сваім вопытам педагог шчодра дзеліцца з калегамі, яна пастаянна выступае на гарадскіх семінарах, жнівеньскіх нарадах, чытае лекцыі ў абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі і дае адкрытыя ўрокі ў час вучэбнай практыкі для яго слухачоў. У 1997 годзе гарадскім метадычным кабінетам быў абагульнены вопыт работы А.А.Падрубнай па тэме "Інтэграцыя як форма выкладання літаратуры".

Навуковай работай настаўнік-славеснік займаецца невыпадкова. Яна лічыць, што інтэграцыя дае магчымасць, з аднаго боку, паказаць вучням "свет цалкам", а з другога — вызваляе час для профільнай дыферэнцыяцыі ў навучанні і зніжае перагрузку вучняў.

Урокі Алены Аляксандраўны Падрубнай заўсёды цікавыя, а галоўнае — заўсёды эфектыўныя, бо развіваюць у дзіцяці здольнасці да цэласнага ўспрымання свету, абуджаюць уяўленне і творчую фантазію. Працуючы на ўроках у групах, яе вучні займаюцца гістарычнымі і літаратуразнаўчымі даследаваннямі, выкарыстоўваючы багаты даведачны матэрыял. У выніку яны заўсёды прыходзяць да арыгінальных і ў той жа час сур'ёзных, з навуковага пункту погляду, вынікаў. Алена Аляксандраўна запрашае на свае ўрокі і прафесійнага псіхолага. Далучэнне да псіхалогіі заснавана на глыбокім перакананні настаўніка ў тым, што і літаратура, і псіхалогія маюць адзіны аб'ект даследавання — чалавека. Літаратура як выхаваўчы прадмет без дапамогі псіхалогіі абысціся не можа. Не выпадкова літаратуразнаўцы-прафесіяналы, напрыклад, Я.Ільін, а яшчэ раней Леў Талстой, гавораць пра чалавеказнаўства, а не пра літаратуру. Дык і галоўная выхаваўчая задача — праз літаратурны вобраз дапамагчы вучням пазнаць, па-першае, сябе, а потым і навакольны свет, па-другое, знайсці сваё месца ў гэтым свеце. Пранікаючы ў псіхалогію герояў, аналізуючы яе, Алена Аляксандраўна выводзіць вучняў на шлях псіхалагічнага трэнінгу: "Я — у дапушчальных абставінах", тым самым праз эмпатычнае перажыванне фарміруючы ў вучняў сацыяльную мадэль паводзін. З гэтай мэтай яна выкарыстоўвае самыя разнастайныя формы работы: асацыятыўнае маляванне, работу з узорамі-сімваламі, прыём псіхалагічнай драматызацыі, работу з каляровай сістэмай М.Люшэра. Гэты метад Алена Аляксандраўна выкарыстала некалькі год назад падчас работы над раманам Ф.Дастаеўскага "Злачынства і пакаранне". Яе вучні, абапіраючыся на прапанаваную сістэму колеру, узнавілі псіхалагічную карціну злачынства, а выкарыстаўшы прыём псіхалагічнай драматызацыі, адказалі на вельмі цяжкія пытанні: хто правы, хто вінаваты ў тым, што здарылася з героямі (начлежнікамі) п'есы М.Горкага "На дне".

Дапамагаюць зразумець мастацкую своеасаблівасць літаратурнага твора на ўроках Алены Падрубнай і іншыя віды мастацтва: музыка і жывапіс, бо сувязь паміж літаратурай, музыкай і жывапісам носіць глыбокі і ўстойлівы характар.

Інтэграваную форму ўрокаў настаўнік выкарыстоўвае і на ўроках знаёмства з геаграфіяй і асаблівасцямі творчасці пісьменнікаў і паэтаў з мэтай стварэння карціны творчасці мастакоў слова, уключанай у кантэкст эпохі.

У сваёй практыцы А.Падрубная выкарыстоўвае таксама і сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі, якія дазваляюць ёй максімальна аб'ектыўна правяраць веды вучняў з дапамогай тэстаў.

Такім чынам, ідэя інтэграцыі, ажыццяўляемая на практыцы настаўнікам Аленай Падрубнай, дапамагае рэалізаваць творчыя здольнасці вучняў, раскрывае іх духоўны патэнцыял, спрыяе стварэнню свету больш даверлівых адносін, атмасферы супрацоўніцтва, заснаванай на калектыўнай дзейнасці мыслення. Такім чынам ствараюцца ўмовы для развіцця індывідуальнасці, для праяўлення асобаснага пачатку вучня. А гэта і ёсць галоўная задача настаўніка. І добра, калі настаўнік сам з'яўляецца творчай асобай, мае свой почырк і стыль. Такім прыкладам можа служыць Алена Аляксандраўна Падрубная, якая стварыла педагагічную тэхналогію, прадаўжае яе развіваць, знаходзіцца ў пастаянным творчым пошуку.

**Вольга НАСОНАВА,**
**метадыст Гомельскага дзяржаўнага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі.**

## З іскрынкі творчасці — у агонь майстэрства

У чаканні другога з'езда настаўнікаў з усё большай пастаянай надзённасцю паўстаюць перад намі, настаўнікамі, пытанні:

— Як стварыць камфортнае адукацыйнае асяроддзе ў агульнаадукацыйнай навучальнай установе і для вучня, і для настаўніка?

— Як павысіць эфектыўнасць прававога статуса і эканамічнай базы адукацыі?

—Якімі прафесійнымі якасцямі павінен валодаць сучасны настаўнік?

Яшчэ ў 1969 годзе, выступаючы на Усерасійскім з'ездзе настаўнікаў, В.А.Сухамлінскі казаў: "Калі настаўнік слабы, калі яго асабістыя веды адстаюць ад развіцця навукі, то яго слабасці пяройдуць у будучыню праз яго вучняў. Нічога горшага за гэта быць не можа. У той жа час добры настаўнік таксама прадаўжае сябе, свае веды, свае добрыя якасці ў сэрцах і розумах сваіх выхаванцаў. І няма нічога больш высакароднага за гэтую місію".

Аналізуючы гэтыя словы, разумееш, як гэта актуальна сёння. Наколькі высокі прафесійны ўзровень настаўніка, настолькі будзе дасканалай адукацыйная прастора школы, якая накіравана на раскрыццё прыродных здольнасцяў асобы дзіцяці. Тады выключную ролю ў школьнай адукацыі набывае фігура настаўніка і стан навукова-метадычнай работы, якая з'яўляецца асноўным фактарам інтэнсіфікацыі выкладчыцкага працэсу і росту прафесійнага майстэрства настаўніка.

А наколькі эфектыўна распрацавана адукацыйная прастора ў політэхнічнай гімназіі № 6 Савецкага раёна Мінска, можа сведчыць той факт, што суперфіналістам Рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства "Крыштальны журавель-2001" стаў выкладчык матэматыкі гімназіі Дзмітрый Мікалаевіч Чарапко, які мае ўсяго сем год настаўніцкага стажу.

Для мяне як дырэктара важна было прасачыць за тымі змяненнямі, якія адбыліся з Дзмітрыем, удзельнікам і пераможцам гімназічнага, раённага і гарадскога конкурсаў. Гэта больш упэўненая паходка, а ў сувязі з нараджэннем дачкі ў самым "гарачым" перыядзе конкурсу — паяўленне заклапочанасці на твары. Аднак мяне больш за ўсё цікавіла ўнутранае прафесійнае станаўленне настаўніка, які прайшоў паўгадавы цярністы шлях канкурсанта. Сваімі думкамі я вырашыў падзяліцца з Дзмітрыем Мікалаевічам. Сумесны прагляд і абмеркаванне відэазапісу конкурсных урокаў, выступленняў і прадстаўленняў ідэй Дзмітрыя і творчай групы выкладчыкаў гімназіі, якія працавалі не толькі над стварэннем праектаў, але і непасрэдна ўдзельнічалі ў конкурсных выступленнях, пераканаўча даказалі, што выбраны шлях удасканалення выкладчыцкага майстэрства настаўніка ў гімназіі найбольш аптымальны.

Падчас размовы з Дзмітрыем Мікалаевічам я ўсё больш пераконваўся, што іскрынкі творчасці маладога, таленавітага педагога ператвараюцца ў пылаючы агонь педагагічнага майстэрства, які дорыць вучням магчымасць адчуваць радасць адкрыцця новых ведаў, уменне і жаданне сумнявацца, спрачацца, шукаць і дамагацца пастаўленай мэты. Мы прыйшлі да высновы, што, здавалася б, звычайныя ўрокі, якія правodзіў Дзмітрый Мікалаевіч у рамках конкурсу, на якіх дзеці вывучаюць тэарэтычны матэрыял, рашаюць задачы, пішуць матэматычныя дыктоўкі, праводзяць даследаванні — гэта і ёсць педагагічная творчасць. Калі праца настаўніка зліваецца з працай вучня, цесна пераплятаюцца іх думкі, адчуванні, воля, іншыя чалавечыя якасці — вырашаецца і галоўная задача адукацыі і выхавання — развіваюцца творчыя здольнасці вучняў.

Я ўпэўнены, што якасць адукацыі залежыць ад многіх фактараў:

— ведання настаўнікам прадмета, яго кругагляду і эрудыцыі;

— навукова-метадычнай падрыхтоўкі настаўніка;

— інтэлектуальнага жыцця ў сям'і (у Дзмітрыя Мікалаевіча жонка — настаўнік матэматыкі);

— запатрабаванасці творчасці ў педагагічным калектыве;

— матывацыйна-стымулюючай падтрымкі педагога-наватара праз сістэму конкурсаў прафесійнага майстэрства і адпаведнага заахвочвання дзейнасці творчага педагога.

Прыярытэтным напрамкам развіцця школы з'яўляецца стварэнне ўмоў для фарміравання інтэлектуальна развітай асобы, здольнай да самаўдасканалення, самапазнання і самарэалізацыі ў віртуальным свеце.

**Казімір ФАРЫНО,**
**дырэктар політэхнічнай гімназіі № 6 Мінска, кандыдат педагагічных навук, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь**



*Праект*

## Край мой родны

**Агульныя палажэнні**

1. Гэтая праграма разлічана для арганізацыі заняткаў па выбары з мэтай паглыблення ведаў па гісторыі;

2. Курс "Край мой родны" з'яўляецца складаемай часткай адукацыйнай галіны гісторыі і пабудаваны з улікам мясцовых сацыяльна-культурных асаблівасцяў і традыцый;

3. Прагназуемая якасць падрыхтоўкі вучняў пасля выканання праграмы: паглыбленне ведаў па прадмету; авалоданне спецыяльнымі гістарычнымі ўменнямі, у тым ліку навукова-даследчымі; станаўленне чалавека-патрыёта і грамадзяніна.

**Матывацыя і падставы стварэння праграмы**

Як вядома, базавы кампанент — гэта мінімальна неабходны аб'ём зместу вучэбнага матэрыялу, які вывучаецца ў школе. Гэтая праграма варыянтнай часткі вучэбнага плана створана зыходзячы з запатрабаванняў вучняў і іх бацькоў.

**Прынцыпы арганізацыі:**

1. Пераемнасць базавай і варыянтнай часткі вучэбнага плана;

2. Аптымізацыя ўзроўню ўзаемаадносін асобы, школы і дзяржавы;

3. Адэкватнасць праграмы "Край мой родны" рэальнаму стану адукацыйнай практыкі, мэтам і задачам гістарычнай адукацыі;

4. Курс прадугледжвае добраахвотны выбар яго вучнямі і бацькамі.

**Прынцыпы сумеснай дзейнасці настаўніка і вучняў пры выкананні праграмы "Край мой родны"** — Свабода, Самастойнасць, Сатворчасць.

**Мэты**

Мэтамі варыянтнай часткі вучэбнага плана ў адукацыйнай галіне гісторыі з'яўляюцца:

— фарміраванне каштоўнасных арыенціраў асобы: патрыятызм, нацыянальная самасвядомасць, свабода, творчасць, супрацоўніцтва, павага да гістарычных каранёў;

— засваенне важнейшых гістарычных асаблівасцяў развіцця роднага краю, якія вызначылі яго дасягненні ў матэрыяльнай і духоўнай культуры;

— забеспячэнне павышэння ўзроўню якасці гістарычнай адукацыі;

— фарміраванне асобасных перакананняў вучняў на аснове выхавання павагі да гістарычных і культурных традыцый малой радзімы.

**Задачы**

Варыянтная частка вучэбнага плана ў адукацыйнай галіне гісторыі, зыходзячы з мэтаў, прадугледжвае:

— узбагачэнне вучняў ведамі аб важнейшых працэсах, з'явах, падзеях, асобах у гісторыі свайго краю;

— стварыць умовы, якія дазваляюць вучням усвядоміць своеасаблівасць свайго рэгіёна, і выхаваць адказнасць за лёс краю і ўсёй Беларусі;

— развіццё у вучняў агульнавучэбных і спецыяльных гістарычных уменняў, у тым ліку гістарычнае мысленне, сродкамі выканання варыянтнай часткі вучэбнага плана;

— навучыць вучняў уменню знаходзіць прычынна-выніковыя сувязі ў гістарычных працэсах, вызначаць і ацэньваць фактары, якія абумовілі асаблівасці развіцця свайго рэгіёна;

— навучыць вучняў суадносіць гісторыю роднага краю і гісторыю Беларусі і свету;

— праз вывучэнне гісторыі малой радзімы садзейнічаць выхаванню свядомага чалавека-патрыёта, адказнага грамадзяніна, які добразычліва ставіцца да культуры і звычаяў свайго і іншых народаў.

Варыянтная частка вучэбнага плана прызначана для базавай школы. Гістарычныя падзеі, з'явы, працэсы прадстаўлены падзейна-храналагічным радам. Курс разлічаны на 35 гадзін у год на кожны клас па рашэнню і пры ўмове выбару вучнямі. Магчымы змены ў залежнасці ад колькасці гадзін школьнага кампанента ў пэўным класе.

**Алег ЛЕАНОВІЧ,**
**настаўнік сярэдняй школы № 2 Слоніма.**

Адукацыйныя праекты — “У новае стагоддзе з новымі...”

# Класічныя ідэі мінулага і новыя тэхналогіі сучаснасці

XXI стагоддзе... III тысячагоддзе... якія эпахальныя адрэзкі часу. Так, 2001 год пачынае не толькі новае стагоддзе, але і новае тысячагоддзе. Але ж такі ўжо чалавек, што новы сшытак заўсёды хочацца запаўняць асабліва акуратна. Новае жыццё заўсёды пачынаеш з панядзелка, а з новага стагоддзя і тысячагоддзя, здаецца, пачынаецца новая эра — эра дабра, радасці і міру. І хацелася б узяць з сабою ўсё лепшае. Ці абавязкова яно павінна быць новым? Народная мудрасць гаворыць, што ўсё новае — гэта добра забытае старое. Сёння ў сферы асветы папулярны новыя адукацыйныя тэхналогіі. І так натуральна было б назваць адукацыйны праект “У новае стагоддзе з новымі тэхналогіямі”. Але перш чым даць такую назву, давайце зазірнём у мінулае і паглядзім, што было каштоўнага ў педагогіцы за мінулыя дзве тысячы год.

Натуральна пачаць такую вандроўку з антычнасці з яе пільнай увагай да асобы чалавека, з яе гармоніяй з космасам, з яе сакратаўскімі гутаркамі. Ці не адтуль наш асноўны метад работы на ўроку — гутарка? Ці не адтуль адзін з асноўных сучасных прынцыпаў педагогікі — індывідуальны падыход да вучня.

Сярэднявечча — адзін з самых духоўных перыядаў у гісторыі чалавецтва з універсальнай інтэгрыраванай адукацыйнай прасторай, асветленай хрысціянскімі каштоўнасцямі. Асаблівасцю адукацыі была адзіная непадзельная сістэма ведаў, якая з’яўлялася базавай для далейшага спасціжэння свету. Як актуальная цяпер інтэграцыя ў самых розных формах! Гэта інтэграванае выкладанне ў пачатковым звяне, і вертыкальная інтэграцыя, калі веды вучняў выкладаюцца блокамі, і інтэграванае выкладанне прадметаў адзінага цыкла — прыроданавуковага, гуманітарнага. Працягваючы традыцыі антычнасці, сярэднявечча фарміруе ўласную разнавіднасць гутаркі — дыспут, тым самым ствараючы праблемныя сітуацыі на ўроку ў сучаснай педагогіцы.

Адраджэнне — яркая веха ў гісторыі. Гэта эпоха вылучыла ў адукацыі прыродазнаўчанавуковы падыход да пазнання і дыферэнцыяцыі ў выкладанні. Колькасць назапашаных звестак пра свет стварае ўмовы для вылучэння розных вучэбных дысцыплін. Невыпадкова амаль адначасова нараджаецца і ажыццяўляецца ідэя Яна Амоса Каменскага аб класна-ўрочнай сістэме адукацыі, якая з’яўляецца найбольш распаўсюджанай і сёння.

Стагоддзе XVIII — стагоддзе розуму. Эпоха Асветы. Сама назва эпохі ўказвае на тое, што адукацыя становіцца галоўнай каштоўнасцю ў грамадстве, якой надаецца вельмі вялікае значэнне. Лічыцца, што чалавека дастаткова навучыць, для таго, каб зрабіць яго маральным. Адукаванасць прыраўноўваецца да дабрадзейнасці. Якая знаёмая нам гэта карціна. Як шмат гаворыцца сёння аб адукацыйных тэхналогіях, якія даюць адказ на пытанне “як даць суму ведаў”, але не адказваюць на пытанне “як фарміраваць чалавека маральнага (Homo moraie)”. Эпоха асветы закончылася крывавай французскай рэвалюцыяй. Няхай гэта будзе нам, сённяшнім, грозным папярэджаннем!

Новы час у XIX стагоддзі канчаткова фарміруе адукацыю, як сістэму з пачатковай, сярэдняй і вышэйшай прыступкамі, прычым пачатковае звяно становіцца абавязковым для большасці еўрапейскіх краін. Ідэі профільнай адукацыі ажыццяўляюцца ў класічных і рэальных гімназіях. Лінгвістычная падрыхтоўка становіцца базай для паспяховага засваення новых ведаў. Гэтыя ідэі знайшлі сваё ўкараненне ў сучасных разнапланавых навучальных установах, у акцэнце на вывучэнне замежных моў у сучаснай школе, як асновы фарміравання культурнапрадуктыўнай асобы.

XX стагоддзе — стагоддзе новых тэхналогій. Стагоддзе, якое пачыналася як стагоддзе спецыялістаў, а закончылася як стагоддзе прафесіяналаў. Запатрабаванасць прафесіяналаў педагогаў садзейнічае творчым адносінам да педагагічнага працэсу. Наша педагогіка ўзбагачаецца імёнамі Блонскага і Шацкага, Макаранкі і Сухамлінскага, Шчацініна і Ільіна, Шаталава і Аманашвілі. Школа імкнецца пазбавіцца ад аўтарытарнасці і перайсці да дэмакратычнага стылю навучання.

Такім чынам, кожная эпоха дала нам нешта важнае, нешта вельмі актуальнае і сёння, без чаго сучасная педагогіка існаваць проста не можа. Таму мне хацелася б назваць мой праект “У новае стагоддзе з класічнымі ідэямі мінулага і новымі тэхналогіямі сучаснасці”.

Асноўнай думкай гэтага адукацыйнага праекта з’яўляецца ідэя класічнай педагогікі — напаўненне адукацыі зместам выхаваўчага характару.

Вобраз дзіцяці — кветкі — адзін з самых распаўсюджаных. Школа — сад, аранжарэя, дзе вырастала б кветка душы кожнага вучня — вось што здаецца важным сёння. Мы можам напоўніць да краёў ведамі галаву вучняў, але калі душа яго будзе глухой альбо застанецца ў зародку, яго асоба будзе небяспечнай для ўсяго жывога на зямлі. Ідэі антычнасці або гармоніі з космасам, ідэі сярэднявечча аб адзінай адукацыйнай прасторы, усе лепшыя ідэі педагогікі павінны быць пастаўлены на службу фарміравання духоўнасці будучых пакаленняў. Інакш для людзей XXII стагоддзе можа проста не наступіць.

**Алена ПАДРУБНАЯ,
настаўніца сярэдняй школы
№ 10 Гомеля.**

# Узяць лепшае з традыцыйнай адукацыі

Мы — на стыку вякоў. Мы ўжо зрабілі першы крок да новай эры. Мы абцяжараны вялікім багажом мінулага, у якім адчуваем многа непатрэбнага. Пачынаем разбураць багаж і нас ахопліваюць супярэчлівыя прадчуванні. То нам здаецца, што мы ніколі не адрознім карыснага ад дарэмнага, і таму прасцей выкінуць усё і крочыць у будучыню з палёгкай. То нам адразу становіцца шкада гадамі набытага. І мы рашаемся ўсё браць з сабою. Але ў тым ці іншым выпадку мы асуджаны. Адукацыі патрэбны рэформы. Матэматычнай адукацыі неабходны рэформы. Не бяздумная адмова ад усяго, што было і ёсць у адукацыі, а рэформы разумныя, пад якія падведзен трывалы падмурак, адліты з лепшага ў традыцыйнай адукацыі. Узяць з таго, што было лепшае і дапоўніць навацыямі і тэхналогіямі, якія адпавядаюць сучаснасці — вось задача рэформы.

Рэформа агульнаадукацыйнай школы мае на мэце дзве асноўныя ідэі: гуманізацыю і гуманітарызацыю. Часта, на жаль, гуманізацыю разумеюць, як аблягчэнне школьнага курсу і менавіта за кошт самай складанай дысцыпліны — матэматыкі. Але ж матэматыка — адзін з ключавых прадметаў сярэдняй школы, розум да парадку прыводзіць" і больш таго — гэта мова, на якой размаўляюць іншыя навукі. Таму, скарачаючы колькасць урокаў матэматыкі, мы збядняем гэтую мову для вучня. Ці гуманна гэта? Гуманізацыя заключаецца не ў скарачэнні колькасці ўрокаў, а ў тым:

1) каб кожны вучань меў магчымасць выбару ўзроўню вывучэння прадмета;

2) каб даць магчымасць кожнаму дзіцяці максімальна развіць свае здольнасці;

3) каб кожны вучань мог навучыцца самастойна прымаць рашэнні;

4) каб ацэньваўся не аб‘ём засвоенай інфармацыі, а ступень развіцця вучня;

5) каб была ўстаноўлена не верхняя, а ніжняя мяжа ўзроўню вывучэння прадмета.

Калі ж гаварыць аб гуманітарызацыі школьнага выхавання. то матэматыка і тут можа адыграць адну з галоўных роляў. Дзе, як не на ўроках матэматыкі дзеці вучацца размаўляць лагічна правільна і, мала таго, вучацца граматна выказваць свае думкі і будаваць прычынна-следчыя сувязі. Напрыклад, калі папрасіць вучняў сфармуляваць адмаўленне выказванню: “Я сёння пайду ў парк альбо ў кіно”, то большасць вучняў сфармулююць гэта так: “Я не пайду сёння у парк ці ў кіно” і зробяць элементарную лагічную памылку. Але ж як правільна пабудаваць гэтае выказванне вучні могуць навучыцца толькі на ўроку матэматыкі. А паслухайце выступленні палітыкаў, вядомых людзей, колькі лагічных памылак робяць яны, калі выступаюць з прамовамі і г.д.

Паглядзім на праблему выкладання матэматыкі яшчэ з аднаго боку. Геаграфічнае становішча Беларусі і адсутнасць багатых сыравінных рэсурсаў і энерганосьбітаў вызначае два асноўныя накірункі развіцця эканомікі: гандаль і навукаёмкая вытворчасць. Таму адмова ад сур’ёзнага вывучэння матэматыкі ў школе, а як следства фізікі, хіміі і іншых навук, якія “размаўляюць” на мове матэматыкі, азначае “секчы сук, на якім сядзім”.

Школа будучыні, на мой погляд, будзе заснавана на інтэграваным навучанні, якое дае вучню магчымасць больш глыбокага вывучэння тых прадметаў, якія яму больш падабаюцца, і дазваляе вызначыць і выкарыстаць свае інтарэсы і здольнасці. Таму кожны прадмет павінен выкладацца на розных узроўнях складанасці. Гутарка ідзе аб дыферэнцыяцыі аб’ёму і глыбіні засваення зместу.

Матэматыка, як школьны прадмет, валодае вялікім развіваючым патэнцыялам. Але, на жаль, мы ў школе часта вучым дзяцей больш вылічальнай рабоце, чым даследчай. Сучасны школьнік вымушаны больш спадзявацца на сваю памяць, чым на ўменне мысліць, таму што рашэнне большасці задач (асабліва экзаменацыйных) зводзіцца да прымянення гатовых алгарытмаў.

Матэматыка — сродак фарміравання ў школьнікаў сістэмы асноўных матэматычных ведаў, уменняў і навыкаў, развіцця вучня. Вучань не павінен атрымліваць гатовыя веды: ён павінен канструяваць веды сам. Ці магчыма гэта? Адказ на гэтае пытанне дае педагагічная практыка: вопыт і веды вучняў, якія набываюцца ў ходзе рэальных працэсаў “ствараючых” думку і дзеянне.

“Мы, каго цяпер называюць рэфарматарамі, імкнёмся пакласці ў аснову выкладання паняцце функцыі, бо гэта ёсць тое паняцце, якое ў ходзе папярэдніх 200 гадоў заняло цэнтральнае месца ўсюды, дзе толькі мы сустракаем матэматычную думку... Каб зрабіць магчымым гэта новаўвядзенне, мы гатовы адмовіцца ад многіх частак матэрыялу, якія ўваходзяць у склад існуючых праграм; гэтая пытанні, несумненна, цікавыя самі па сабе, але ж па агульным сваім значэнні і па сувязі з усёй сучаснай культурай яны прадстаўляюцца меней грунтоўнымі”. Гэтыя радкі напісаў Фелікс Клейн у пачатку XX стагоддзя, але як яны актуальны сёння! Уменне знаходзіць залежнасць і даследаваць яе вельмі важна не толькі ў матэматыцы, а наогул, ва ўсіх галінах дзейнасці чалавека. Уласцівасці функцый, якія вывучаюцца ў школе, застаюцца мёртвым грузам. Яны вывучаюцца дзеля іх саміх, а не дзеля далейшага іх прымянення. Між тым, прымяненне ўласцівасцей функцый мае вялікае значэнне, паказвае прыгажосць матэматыкі. Уменне прымяняць уласцівасці функцыі пры рашэнні ўраўненняў, няроўнасцей, геаметрычных задач павінна стаць крытэрыем матэматычнай падрыхтоўкі выпускніка.

У школу будучыні, я спадзяюся, вернецца калі небудзь матэматычная логіка, няхай хаця б у якасці раздзелу, а не асобнага прадмета.

Традыцыйна так сталася, што геаметрыя даецца вучням цяжэй, чым алгебра. Чаму? Цяжкі прадмет? Часткова, так. Але ж калі паглядзець глыбей, то можна заўважыць, што рашэнне большасці заданняў па алгебры робіцца па аналогіі, а ў геаметрыі да кожнай задачы даводзіцца падыходзіць індывідуальна. Вельмі цяжкія задачы на доказ. Прычынай таму з‘яўляецца тое, што прыклады доказаў (тэарэмы) вучань успрымае ў гатовым выглядзе ў выкананні настаўніка. Вучань не задумваецца аб узнікненні метаду доказу, а значыць, развіваючай мэты тэарэма не дасягнула. На мой погляд, у школе будучыні неабходна вучыць, у першую чаргу метадам пазнавальнай дзейнасці. Наогул, геаметрыя, як прадмет, носіць развіваючы характар, любы геаметрычны аб‘ект можна спачатку змерыць, параўнаць, можна зрабіць меркаванне аб якасцях і праверыць спачатку інструментальна, а потым даказаць тэарэтычна. Як ні ў якім іншым прадмеце, вывучаючы геаметрыю, вучань даказвае, разважае, дае вызначэнні, у яго развіваецца прасторавае ўяўленне.

Я мяркую, што школа павінна стаць рознаўзроўневай. У ёй павінны быць класы з розным узроўнем прадметаў па ўсіх накірунках. Мяркую аптымальнымі базавы, павышаны і паглыблены ўзроўні. Вывучаючы прадмет на базавым узроўні, вучань павінен мець права спрабаваць сябе на любым узроўні, каб вызначыць для сябе прыярытэтныя прадметы і накірункі. Чым раней ён гэта зробіць, тым больш паспяховым будуць яго выбар і вучоба, тым больш у яго будзе імкнення да вучобы і меней няўдач. І такая дыферэнцыяцыя павінна быць у кожнай школе, а не толькі ў спецыялізаванай. У спецыялізаванай школе дзіця часта пазбаўляецца магчымасці выбару.

### Узроўневая дыферэнцыяцыя абавязковага кампанента ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе

Табл.1

| Клас | Узровень навучання | | |
|---|---|---|---|
| | Базавы | Павышаны | Паглыблены |
| 5<br>6<br>7 | Развіццё інтарэсу да прадмета, падрыхтоўка да выбару профілю, стварэнне базы для вывучэння прадметаў матэматычнага цыкла. | | |
| 8<br>9<br>10 | Вывучэнне прадмета на абавязковым агульнакультурным узроўні. | Паглыбленае вывучэнне прадмета з мэтай задавальнення больш высокіх пазнавальных патрэбнасцяў вучня за кошт рашэння задач, падрыхтоўка да выбару профілю. | |
| Ліцэйскія класы | | | |
| 11<br>12 | Арыентаваны на класы гуманітарнага профілю і мае агульнакультурны характар. | Арыентаваны на абітурыентаў ВНУ. Фарміруе навуковы светапогляд, мае прыкладны характар. | Арыентаваны на абітурыентаў, для якіх матэматыка будзе прафесіяй. Фарміруе навуковы светапогляд, накіраваны на больш глыбокае вывучэнне тэарэтычнага матэрыялу і яго прымяненне пры рашэнні задач даследчага характару. |

### Узроўневая дыферэнцыяцыя неабавязковага вучэбнага кампанента

Табл.2

| Клас | Узровень навучання | | |
|---|---|---|---|
| | Гурток | Факультатыў | Індывідуальныя заняткі |
| 5<br>6<br>7 | Развіццё пазнавальных інтарэсаў вучняў | | Падрыхтоўка асабліва адораных вучняў да ўдзелу ў алімпіядах і задавальненне асабліва высокіх пазнавальных інтарэсаў |
| 8<br>9<br>10 | | **Базавы ўзровень:** карэкціроўка выбранага профілю, якая дазваляе вучню перайсці на вышэйшы ўзровень навучання. **Вышэйшы ўзровень:** развіццё пазнавальных інтарэсаў, прафарыентацыйная работа, набыццё першасных навыкаў навукова-даследчай работы. | Падрыхтоўка асабліва адораных вучняў да ўдзелу ў алімпіядах і задавальненне высокіх пазнавальных інтарэсаў. Падрыхтоўка да конкурсаў і канферэнцый. |
| 11<br>12 | | | Падрыхтоўка вучнямі праектаў, навукова-даследчых работ. |

У табліцах 1 і 2 прапанавана мадэль узроўняў дыферэнцыяцыі ў сярэдняй школе. Даная мадэль накіравана на рэалізацыю ідэй гуманізму ў школе. Кожнае дзіця можа максімальна рэалізаваць свае магчымасці, у яго будзе на працягу вучобы права на выбар узроўню навучання прадмета. Пры гэтым магчымы пераход, як ад базавага да павышанага ўзроўню, так і наадварот.

Напрыканцы, хачу сказаць, што поспех рэформы залежыць ад гатоўнасці і жадання настаўніка працаваць. Сёння ён не ў зайздросным стане. І падахвоціць яго да рэфармавання можна, калі падняць сацыяльны статус і матэрыяльнае становішча.

**Дзмітрый ЧАРАПКО,
выкладчык матэматыкі
6-й політэхнічнай гімназіі Мінска.**

# У новае стагоддзе з ясным светаразуменнем

Асноўныя думкі і ідэі праекта выпакутаваны мною за дваццацігадовы вопыт працы ў сістэме адукацыі, а таксама самастойнага і сістэматычнага аналізу дынамікі эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў свеце.

Гэтыя ідэі дастаткова часта выказваліся ў публіцыстычных творах шматлікіх айчынных аўтараў навуковых працах Шчадравіцкага, Латыша, Мацкевіча, Крупнік і іншых. Таму мой праект — гэта ў нейкай ступені адлюстраванне вядомых канцэпцый у інтэрпрэтацыі майго светапогляду і жыццёвага вопыту.

У складзе ААН існуе арганізацыя ЮНІДО, якая вызначае стан “здароўя” прамыслова развітых краін. Па шматлікіх даных (напрыклад, у Давосе даецца ацэнка эканомік дзяржаў па 300-х паказчыках) будуюцца графікі, якія нагляднa ілюструюць стан эканомікі гэтых краін. У апошняе дзесяцігоддзе ўстойлівы графік паніжэння маюць Ірак, рэспублікі былой Югаславіі і рэспублікі былога СССР. Такая з’ява мае назву “сістэмны крызіс”. Гэта азначае, што ў адрозненне ад развітых краін свету, дзе склаліся грамадскія адносіны, якія атрымалі назву постіндустрыялізацыя (тэхналагізіраванне) грамадства з рынкавымі і дэмакратычнымі адносінамі. Наша беларуская дзяржаўнасць на даны момант дэкларуецца як пераходная ад таталітарнага рэжыму кіравання да дэмакратычнага. А ў пераходны перыяд абвастраюцца супярэчнасці і павышаецца ступень канфліктнасці. Дыспрапорцыі назіраюцца не толькі ва ўсёй грамадскай сістэме, але і ў яе падсістэмах, адной з якіх з’яўляецца адукацыя. Попыт на адукацыю з боку асобных індывідаў і іх гатоўнасць карыстацца гэтым відам паслуг на тэрыторыі Беларусі дастаткова высокія. У той жа час існуючая сістэма адукацыі і падтрыманне яе функцыянавання ацэньваюцца як захаванне і перавага працэсаў узнаўлення і трансляцыі культуры. Працэсы ўзнаўлення не могуць поўнасцю выканаць патрабаванне на развіццё чалавека і грамадства. Калі ж у сацыяльнай сістэме прымаецца ўстаноўка на развіццё, то адукацыя заклікана змяніць “запраграміраванасць” чалавека соцыумам і павінна быць накіравана на фарміраванне ў чалавека патрэбнасці ў развіцці. Адукацыя — гэта падсістэма ў грамадскай сістэме. А як вядома, змяненне якога-небудзь аднаго элемента ў сістэме прыводзіць да значных змен ва ўсёй сістэме .

Такім чынам, менавіта адукацыя здольна забяспечыць незваротнасць прагрэсіўных пераўтварэнняў у грамадстве, таму што яна — унікальная грамадская з’ява, якая аказвае велізарны ўплыў на ўсе бакі жыцця любой краіны, любога соцыуму, усёй чалавечай цывілізацыі.

Ці існуе на сённяшні дзень дакладна выпрацаваная канцэпцыя адукацыі і яе праект? Ці можна называць канцэптам ці праектам прадэкларыраваную перастуктурызацыю сістэмы адукацыі і змяненне тэрмінаў навучання? Ці можа прапанаванае змяненне арганізацыйных формаў быць рэалізавана, калі яно не будзе ўспрынята і зразумета педагагічным супольніцтвам, усім грамадствам?

Магчыма, прынятае рашэнне аб змяненні структуры беларускай адукацыі мае на мэце адаптаваць сістэму адукацыі да замежных узораў. Але дакладнага аналізу сваёй адукацыі няма. Як і разумення таго, што змяненне форм адукацыі, правядзенне работ па стандартызацыі адукацыйных сістэм без істотнага змянення зместу, без разумення, што мэты адукацыі павінны адпавядаць сацыяльнаму заказу на асобу, немагчыма.

Як бы мы ні хацелі дэпалітызаваць змест у адукацыі, жыццё па-за адукацыяй будзе прымушаць нас займацца гэтым і ўносіць у змест адукацыі пытанні палітычныя. Калі лічыць палітыку мастацтвам вядзення грамадскіх спраў, то адукацыя была, ёсць і будзе сферай, дзе закладваюцца і фарміруюцца вядомыя філасофскія катэгорыі: свабода, дэмакратыя, самакіраванне, рынак, дзе вучні авалодваюць навыкамі высокага прафесіяналізму, набываюць здольнасць аналізаваць сітуацыю, самавызначацца ў ёй, слухаць апанента.

Любая рэформа будзе асуджана на правал, калі не будуць вырашаны пытанні далёкай будучыні — назапашванне інтэлектуальнага патэнцыялу.

А якімі яны павінны быць — інтэлект і асоба, якая ім валодае?

Яшчэ ў 1993 годзе на канферэнцыі міністраў адукацыі дзяржаў СНД было вырашана лічыць мэтазгодным распрацоўку дзяржаўных адукацыйных стандартаў, пад якімі патрэбна разумець тыпавы ўзор (мадэль, нарматыў ці норму, рэгламент), які ўтрымлівае ў сабе дыягнастычнае апісанне строга вызначаных ці мінімальных патрабаванняў да асобных бакоў адукацыі, асобы навучаемых і тых, хто навучае, да зместу і арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу і да сістэмы адукацыі ў цэлым. Такія ўзоры павінны мець канкрэтную накіраванасць і дапускаць магчымасць ацэнкі адпаведнасці гэтаму стандарту.

Адукацыйныя стандарты павінны пастаянна ўдасканальвацца, удакладняцца, больш адпавядаць дынамічна зменлівым патрабаванням навукі і тэхнікі, месцу і ролі іх у развіцці адукацыі, эканомікі і культуры грамадства. Найбольш важнымі і вызначальнымі адукацыйнымі стандартамі з’яўляюцца мадэлі асобы вучняў з роўным узроўнем інтэлектуальных здольнасцей, функцыянальна-кваліфікацыйныя мадэлі стандарту ВНУ і навучэнцаў СПНУ, спецыялістаў розных сфер дзейнасці і ўзроўняў падрыхтоўкі, мінімальныя патрабаванні да тых, хто паступае ў ВНУ і СПНУ, а таксама тыпавыя інтэлектуальна-прафесійна-асобасныя мадэлі выкладчыкаў розных кваліфікацыйных узроўняў і займаемых пасад.

А’ектам стандартызацыі павінны з’яўляцца і змест вучэбнага матэрыялу, яго аб’ём, ступень складанасці, навуковасць, а таксама ўзровень яго засваення. Менавіта гэтыя стандарты і рэгламенты вызначаюць адвечна першаступенную праблему любога цывілізаванага грамадства — “чаму вучыць” падрастаючае пакаленне.

У сучасных умовах хуткага “старэння” інтэлекту важнай з’яўляецца арганізацыя бесперапыннай самаадукацыі і самападрыхтоўкі, рэгулярнага павышэння кваліфікацыі. Адпаведна павінны мяняцца і асноўныя патрабаванні да адукацыйных стандартаў. Гэтыя ісціны тэорыі і практыкі адукацыі ў передавых краінах свету ўсвядомлены і практычна рэалізуюцца ўжо даўно.

Можна іх, вядома, пераняць (вельмі асцярожна), але найлепш мець свае дзяржаўныя (нацыянальна адаптаваныя) стандарты для ўсіх ступеней адукацыі, і толькі на іх аснове можна меркаваць аб яе выніковасці, эфектыўнасці і якасці. Яны павінны быць распрацаваны для адукацыйных устаноў рэспублікі ўсіх накірункаў і ўзроўняў, што выкліча вялікія фінансавыя і працоўныя затраты. Да таго ж спатрэбяцца высокакваліфікаваныя спецыялісты па тэорыі і метадах адукацыі па разнастайных вучэбных дысцыплінах на розных узроўнях навучання.

Якія ж асноўныя функцыі адукацыйных стандартаў?

Гэта:

— арганізацыя кантралюемага і кіруемага мэтанакіраванага выхаду з крызісу адукацыі краіны;

— забеспячэнне далейшага высокаэфектыўнага функцыянавання сістэмы адукацыі на ўзроўні сусветных стандартаў;

— забеспячэнне прызнання ў передавых краінах свету атэстатаў, дыпломаў і сертыфікатаў аб адукацыі, выдадзеных навучальнымі ўстановамі Беларусі (пакуль што мы маем дамоўленасць аб узаемным прызнанні дакументаў аб адукацыі з трыма краінамі — Расіяй, Украінай і Кітаем);

— падрыхтоўка спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй на ўзроўні сусветных стандартаў;

— забеспячэнне распрацоўкі, укаранення і выкарыстання інтэлектуальназберагальнай, праца- і рэсурсазберагальнай тэхналогіі ў сістэме адукацыі рэспублікі;

— стварэнне прагрэсіўных стымулаў — высокаэфектыўнага развіцця працэсу агульнага навучання, выхавання і падрыхтоўкі сучасных канкурэнтаздольных спецыялістаў, неабходных для паспяховага развіцця ўсіх галін эканомікі і культуры;

— забеспячэнне бесперапыннасці і пераемнасці, арганічнай узаемасувязі ўсіх сістэм адукацыі — ад дашкольнай і школьнай да вышэйшай і паслядыпломнай (па статусу нацыянальныя стандарты адукацыі павінны з’яўляцца юрыдычнымі ўзорамі, якія дапаўняюць, канкрэтызуюць і забяспечваюць рэалізацыю Закона аб адукацыі).

І яшчэ. Пры ўкараненні адукацыйных стандартаў на канчатковыя ці прамежкавыя вынікі навучання і выхавання патрэбна памятаць, што тут важным з’яўляецца не толькі сам канчатковы вынік, але і тое, як ён атрыманы.

Для адбору і распрацоўкі найбольш актуальных высакаякасных стандартаў і іх эфектыўнага выкарыстання неабходны прагрэсіўныя адукацыйныя прыярытэты і сістэмы каштоўнасцей. Асноўнымі з іх у сучасных умовах можна лічыць:

— дэідэалагізацыю зместу і метадаў адукацыі;

— гуманізацыю зместу ў рэчышчы агульначалавечай культуры і нацыянальных традыцый;

— засяроджванне акцэнту на інтарэсах асобы і яе галоўнейшых інтэлектуальных запытах;

— пераход ад тэхнакратычнага падыходу да навучання і выхавання высокагуманнай асобы спецыяліста (незалежна ад яго спецыяльнасці і прафесіі);

— своечасовае (і ранняе) выяўленне задаткаў і патэнцыяльных здольнасцей дзіцяці і навукова абгрунтаваная прафесійная арыентацыя;

— паступовая інтэграцыя ў заходнееўрапейскую і сусветную сістэму адукацыі, але з абавязковым улікам асаблівасцей і магчымасцей айчыннай сістэмы адукацыі і патрэбнасцей эканомікі

— інтэлектуальны пераход да сістэмы і метадаў фарміравання свабодных людзей новай фармацыі: з крытыка-аналітычным мысленнем, высокамаральных і высокаэтычных, якія добра арыентуюцца ў новых умовах і здольныя знайсці найбольшае прымяненне сваім здольнасцям, магчымасцям атрыманай падрыхтоўкі ва ўмовах дэмакратычнага грамадства, пабудаванага на рынкавых адносінах.

Існуючая сістэма адукацыі Беларусі са сваёй даволі інерцыйнай матэрыяльнай і чалавечай структурай сфарміравалася ва ўмовах планавай эканомікі. Ва ўмовах будучага, на якое нацэлены пераходны перыяд, кожнае звяно сістэмы адукацыі будзе мець непасрэдную сувязь з рынкам, а яго выпускаючыя звёны — непасрэдна з рынкам працы. Ужо зараз узнікае патрэба ўлічваць і структуру заробкаў пэўнага рэгіёна, магчымасці міграцыі, прыстасаванасць чалавека да перамены працы і яго гатоўнасць да пераначавання. У якасці магутнага рэгулятара развіцця толькі пачынаюць фарміравацца патрэбнасці насельніцтва, асобных людзей, прадпрыемстваў. З’яўляючыся стратэгічным і доўгатэрміновым фактарам развіцця краіны, сістэма адукацыі ў той жа час у аператыўна-функцыянальных адносінах поўнасцю залежыць ад палітычнага асяродку і эканамічных магчымасцей.

Калі нас цікавяць вынікі, то трэба мець на ўвазе, што неабходна аднагасовае вырашэнне наступных задач. Па-першае, трэба вылучыць і ранжыраваць прыярытэтныя напрамкі дзейнасці і інвеставання, забяспечыць найбольшую патэнцыяльную эфектыўнасць як унутры самой адукацыі, так і ў сумежных з ёй народнагаспадарчых і сацыяльных сферах. Для гэтага патрэбна абгрунтаваць магчымасці пераадолення матэрыяльна-фінансавых і іншых цяжкасцей, звязаных з пераходам да новай мадэлі адукацыі. Па-другое, патрэбна прапанаваць больш высокі ўзровень адукацыі.

Выключным момантам у дзейнасці сферы адукацыі, яе рэфармаванні з’яўляецца мабілізацыя сродкаў і матэрыяльных рэсурсаў, г.зн. фінансаванне. Раней праводзімыя ў краіне разлікі бягучага і прагназуемага аб’ёму мінімальна дастатковых сродкаў для розных узроўняў адукацыі прад’яўлялі непасільныя патрабаванні да бюджэту і тым самым міжволі падштурхоўвалі да фінансавання па “астаткаваму прынцыпу”.

У сучасных умовах пры карэктнай устаноўцы дапушчальных велічынь дзяржаўных сродкаў, якія патрабуюцца для развіцця адукацыі (без неапраўданых прэтэнзій да іншых галін эканомікі і культуры), найбольш рацыянальна зыходзіць не з нарматыўных разлікаў абсалютных узроўняў, а ад рознага роду адносных структурных суадносін, на якія можна потым накласці тыя ці іншыя паказчыкі наяўнасці сродкаў у дзяржавы. Зразумела, што ў першую чаргу вырашаецца прынцыповае пытанне аб месцы ўсёй сферы адукацыі (па яе галоўных структурных кампанентах) у сістэме рэспубліканскіх і мясцовых прыярытэтаў. Выбар яго павінен праводзіцца па новаму для нас, але агульнапрынятаму ў сусветнай практыцы адзінаму для ўсіх галін эканомікі і культуры крытэрыю — суадносінах сацыяльна-эканамічных сфер у нацыянальных рахунках.

У якасці канчатковай мэты прапануецца неабходнасць паступовай ліквідацыі разрываў паміж затратамі ў матэрыяльнай вытворчасці і адукацыі.

У практыцы адукацыйных устаноў і любой праграмы рэфармавання сістэмы адукацыі ключавым з’яўляецца пытанне аб тым, дзе ўзяць сродкі і матэрыяльныя рэсурсы? Адзіны (і да таго ж адпаведны ўмовам пераходу да рынкавай эканомікі) адказ: “запусціць” эканамічныя і прававыя механізмы, якія дазволяць навучальным установам прыцягваць разнастайныя крыніцы фінансавання. Агульны прынцып заключаецца ў тым, каб на шляху ад гэтай крыніцы да навучальнай установы была мінімальная колькасць пасрэднікаў. Неабходна пераадолець манапалізм і звязанае з ім безаблічнае фінансаванне, паколькі атрыманне ўсіх сродкаў на адукацыю з агульнага катла заўсёды пакідае магчымасць вяртання да “астаткавага прынцыпу”. Безумоўна, сучасны этап інфармацыйнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця немагчымы без велізарных затрат на сферу адукацыі. У ЗША, напрыклад, яны больш чым на 1/3 вышэй ваенных расходаў і ў 2,5 раза пераўзыходзяць затраты на навуку. Аднак нават пры такім узроўні затрат на адукацыю не забяспечваюцца патрэбнасці вытворчасці і сацыяльнага развіцця. Гэты прыклад яшчэ больш падкрэслівае бесперспектыўнасць сістэмы цэнтралізаванага бюджэтнага фінансавання адукацыі ў Беларусі.

Як паказвае вопыт развітых краін, найбольш рацыянальным з’яўляецца такая структура даходу, у якой не менш за палову складаюць сродкі з мясцовых крыніц, а таксама паступленні непасрэдна ад вучняў (ці іх фундатараў) у выглядзе платы за навучанне, з мясцовых падаткаў (найбольш падыходзіць для гэтых мэтаў падатак на нерухомую маёмасць), 20 — 30 працэнтаў — ад рэгіянальных органаў улады і толькі 15 — 20 працэнтаў — з федэральнага цэнтра.

Сістэма адукацыі ў нашай рэспубліцы атрымае моцны штуршок толькі ў тым выпадку, калі мясцовыя органы ўлады падымуцца (ці ім “дапамогуць” падняцца) да разумення, што якасць навучання ў школе з’яўляецца першараднай умовай дынамічнага развіцця рэгіёна.

Важна таксама зразумець, наколькі неабходна плата за навучанне — гэта перш за ўсё сродак матывацыі, унутраны рухавік навучання і ў значна меншай ступені — крыніца даходаў. Але асновай адукацыйнай дзейнасці застаецца дзяржаўны сектар. У большасці краін яго ўдзельная вага стабільная ці нават узрастае.

Немалаважную крыніцу паступлення даходаў (валюты) наша сістэма адукацыі можа мець ад экспарту адукацыйных паслуг і продажу навукова-тэхнічнай прадукцыі. Распрацоўка інфармацыйных тэхналогій і праграмнага забеспячэння з’яўляецца сёння на сусветным рынку адным з вядучых экспартных тавараў і візітнай карткай узроўню развіцця дзяржавы. На карысць гэтага сведчыць вопыт Індыі, Кітая, Ізраіля і асабліва Венгрыі і Ірландыі, дзе развіццё сектара інфармацыйных тэхналогій і праграмавання было ўзведзена ў ранг нацыянальных стратэгічных праграм. Вопыт невялікай еўрапейскай краіны, якой з’яўляецца Ірландыя, паказвае, што шляхам стварэння спрыяльных умоў можна за кароткі перыяд без істотных затрат з боку дзяржавы стварыць вядучую экспартную галіну. З 1996 года па душавому ВУП (валавы ўнутраны прадукт) Ірландыя апярэджвае Вялікабрытанію. З 1980 года 40 працэнтаў амерыканскіх інвестыцый у вытворчасць электронікі ў Еўропе былі накіраваны ў Ірландыю. Цяпер 1/3 камп’ютэраў, якія прадаюцца ў Еўропе, вырабляюцца ў гэтай краіне. З 1998 года Ірландыя стала адным з буйнейшых у свеце экспарцёраў праграмнага забеспячэння, а на адукацыю яна выдаткоўвае большую долю ВУП, чым любая іншая развітая краіна.

Ажыццяўленне такіх мер у Рэспубліцы Беларусь з’яўляецца не толькі магчымым, але і вельмі перспектыўным, і крайне неабходным. Беларусь традыцыйна валодае значным патэнцыялам звычайных і высокаінтэлектуальных інфармацыйных тэхналогій і, зразумела, арыентавана не толькі на расійскі рынак праграмнага забеспячэння, але і на амерыканскі і еўрапейскі рынкі, бо многія выпускнікі беларускіх ВНУ працуюць у замежных кампаніях.

Такім чынам, ва ўмовах канкурэнцыі сістэм адукацыі наша рэспубліка патэнцыяльна можа мець значны дадатны баланс, нарошчваючы долю укладанняў у адукацыю і культуру, скарачаючы разрыў паміж затратамі на матэрыяльную базу гаспадаркі і сацыяльнае развіццё чалавека і набліжаючы яе да найбольш цывілізаваных краін свету.

Але вернемся з нябёсаў на зямлю, дзе пакуль што ў адукацыі пануе элементарная беднасць, якая не дазваляе забяспечыць нашу школу асноўным — высокаадукаваным педагогам, педагогам-мужчынам.

Падаецца цікавым, што выйсце з гэтай няпростай сітуацыі можа даць уважлівае і непрадузятае вывучэнне айчыннай гісторыі.

Дарэвалюцыйная гімназія, гэтак жа як і сучасная сярэдняя школа, была пастаўлена дзяржавай у жорсткія фінансавыя рамкі. Сродкаў, што выдаткоўваліся ўрадам, было недастаткова для забеспячэння паўнацэннай навучальна-выхаваўчай дзейнасці. Таму гімназія імкнулася выкарыстаць дадатковыя спосабы папаўнення школьнага бюджэту. Найвялікшымі з іх былі плата за навучанне, якую ўносілі бацькі вучняў, матэрыяльная дапамога, якую аказвала грамадства, і прыватныя ахвяраванні.

Як і цяпер, тады дзяржава імкнулася да манаполіі ў арганізацыі народнай адукацыі. Расійскія ўлады выкарыстоўвалі ў фінансаванні навучальных устаноў Заходняга краю практыку ўрада Рэчы Паспалітай, якая выдаткоўвала на адукацыю сродкі, выпатрабаваныя арганізацый, што лічыліся “нядобранадзейнымі”. Напрыклад, гэта былі працэнты з капіталаў і прыбытак з рухомай і нерухомай маёмасці езуіцкага ордэна. Частка прыбытку ад гандлю вінoм, па рашэнню ўрада, таксама ішла на ўтрыманне гімназій.

Дзяржаўная казна выступала пастаяннай, але не адзінай крыніцай утрымання адукацыйных устаноў. Гімназіі атрымлівалі і прыбытак ад маёмасці (пабудоў, земляў), працэнтаў з капіталаў, змешчаных у банк або аддадзеных у пазыку.

Ператварэнне гімназіі ў платную ўстанову ў міністэрскіх пастановах абгрунтоўвалася не толькі фінансавымі цяжкасцямі, але і намерам паўплываць на стаўленне насельніцтва да школы, каб зрабіць яго больш сур’ёзным і адказным. Аб гэтым сведчыць вытрымка з адной міністэрскай пастановы таго часу: “... уверения, что за учение не требуется никакой платы, возрождают некую пагубную беспечность в родителях, особливо в низших классах, и в рассуждении прилежного хождения детей в училища и их успехов...”

Змены памераў аплаты за навучанне адбываліся ў асноўным па ініцыятыве педагагічных калектываў, прычым аплата за навучанне не з’яўлялася абавязковай для ўсіх (вызваляліся сіроты і дзеці з малазабяспечаных сем’яў, дзеці служачых асветы), існавалі два разрады з рознай сумай аплаты. У 1840 годзе памеры аплаты складалі 0,5 працэнта ад гадавога заробку гімназічнага настаўніка, а ў 1917 годзе — 5 працэнтаў. Не больш 10 працэнтаў вучняў маглі ўвогуле быць вызвалены ад аплаты за навучанне, што сведчыць аб вельмі гнуткай сістэме.

Такім чынам, грамадства, пераўтвараючыся ў саўдзельніка школьнага жыцця, брала на сябе пэўныя абавязкі перад школай, а матэрыяльная падтрымка ажыццяўлялася ў самых розных формах.

Вядома, капіраваць вопыт дзейнасці дарэвалюцыйнай гімназіі немэтазгодна, ды і немагчыма, але азнаямленне з сістэмай фінансавання можа быць добрай глебай для разважанняў.

## Заключэнне

Такім чынам, выходзячы з усяго вышэйсказанага, я асмелюся сцвярджаць, што калі ў XXI стагоддзі мы не хочам апынуцца на задворках цывілізацыі, калі мы сапраўды хочам змяніць наша жыццё да лепшага, падняць яго хаця б да сярэднееўрапейскіх стандартаў, то павінны ў рэшце рэшт зразумець, што замкнёнае кола (бедная краіна — бедныя людзі...) можна разарваць толькі разуменнем прыярытэтнай ролі адукацыі, прычым не павелічэннем колькасных, а якасных паказчыкаў. Можа нам не патрэбна столькі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй — бо яны ці выязджаюць за мяжу, ці атрымліваюць мізэрную зарплату, ці ўвогуле не запатрабаваны грамадствам як спецыялісты? Нам патрэбна высокакультурная, высокакваліфікаваная асоба, якая сябе паважае, ведае, чаго яна хоча, цэніць сябе і чаго чакае ад дзяржавы. Але гэта магчыма толькі пры змяненні урадам пункта погляду на ролю адукацыі ў жыцці грамадства ў цэлым і яе значэнні ў выхадзе з эканамічнага і духоўнага крызісу. Іншага патэнцыялу ў нашай краіне, якая абмежавана прыроднымі рэсурсамі і знявечана Чарнобылем, але займае выгаднае геаграфічнае становішча ў цэнтры Еўропы, лічу, няма.

Але за ўсё трэба плаціць. Праўда, трэба ведаць — за што плаціць. Для гэтага і патрэбны эталоны — г.зн. стандарты.

**Галіна ДРОКІНА,
настаўніца геаграфіі
Маладзечанскай
беларускай гімназіі.**

